Цана асобнага нумару 17 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 21. Вільня, Серада, 1-га жніўня 1924 г. Год I.

## У жалобныя угодкі.

Сусьветная вайна, якая ўзяла нязьлічаныя ахвяры жыцьцём і меньнем у ўсіх народаў сьвету, а ў тым ліку і асабліва ў народу беларускага, калі цяпер—цераз дзесяць гадоў ад яе выбуху і цераз пяць ад яе афіцыяльнага канца—будзем аб ёй успамінаць, выклікае ў душах нашых перад усім пачуцьцё *жаху* і *жалю*. І не дарма нашае арганізаванае грамадзянства ў Заходняй Беларусі вустамі Беларускага Нацыянальнага Камітэту абвясьціла дзень і жніўня днём *народнае жалобы*!

Але, памінаючы сяньня ўсіх тых сыноў нашага народу, якія без пары злажылі свае галовы ў часе ваеннае завірухі, мы не павінны аддавацца цалком толькі гэтаму аднаму пачуцьцю. Тое, што сталася,—гэта ўжо *мінуўшчына*, а мы, жывы народ, павінны глядзець перад усім упярод і азірацца назад пастольку, паскольку гэта патрэбна, каб правільна і неабмыльна вызначаць сабе *дарогу ўперад*.

Два практычныя вывады дала нам сусьветная вайна. Абодва яны — нязвычайна цэнныя для нашага народу, і на іх мы павінны затрымацца.

Першы вывад, гэта той, што, якая-бы ні была сіла *дзяржаў*, мацнейшымі за іх аказаліся *жывыя народы*. У пачатку вайны здавалася, што моц Расейскае Імпэрыі, моц Нямеччыны і Аўстрыі—гэткая вялікая і непарушная, што ніхто і нішто зламаць іх ня здолее. І вось у выніку сусьветнае вайны ўсе гэтыя тры Імпэрыі Эўропы разваліліся: расейская „турма народаў“ ператварылася ў „Саюз Сацыялістычных Радавых Рэспублік“, ці на яе руінах патварыліся незалежныя нацыянальныя гаспадарствы. Нямеччыну паабразалі дзяржавы-пераможцы. Аўстрыя распалася на некалькі самастойных дзяржаўных арганізацыяў.

Другі вывад—той, што народныя масы, хоць-бы як прыгнечаныя і паняволеныя, могуць *самі стацца кавалямі сваей долі*: аружныя народы царскае Расеі, сабраныя царом дзеля вайны, зразумелі, якую вялікую, непераможную сілу яны прадстаўляюць, і, усьвядоміўшы сабе гэта, адным магутным ударам разьбілі турму, у якой пакутавалі, ды *пачалі самі будаваць свае жыцьцё*.

Вось якую вагу мае сьвядомасьць масаў, вось што яна можа зрабіць....

Гэтую сьвядомасьць мы і павінны разьвіваць у нашых беларускіх масах. Наша справа *не разьвязана сусьветнай вайной*, мы аказаліся менш шчасьлівымі, чым шмат якія з блізкіх нам і братніх народаў. І нам больш, чым каму, *трэба думаць аб нашай будучыне*.

У расейскай арміі ў перадваенныя часы быў дужа пекны звычай. Калі хавалі памершага ваяку, дык, ідучы на могілкі з нябожчыкам, музыка іграла хаўтурны марш. Але, калі сумны абрад канчаўся, дык назад таварышы памершага варочаліся пад гукі жывой, бадзёрай музыкі, якая варочала іх да кіпеўшага навакол жыцьця, напамінала, што—паміма сьмерці адзінак — жыцьцё гэтае ні на адзін мамэнт ня спыняецца.

Так павінны рабіць і мы. Ушанаваўшы памяць нашых пагібшых братоў, мы павінны вярнуцца да сучаснага жыцьця, да будаваньня нашае будучыны. *І хай песьня пабеды, песьня радасьці вядзе нас у гэтую будучыну — мо йшчэ далёкую, але ясную і шчасьлівую*!

# Крывавае жніво.

## Сусьветныя страты.

### Страты людзьмі.

#### I. Паўшыя ў баёх.

Усяго ў часе сусьветнай вайны было **змабілізавана 75 мільёнаў людзей.** Амэрыка падлічыла, сколькі з гэтае лічбы убыла ад крывавай бойні і хвароб.

Вось-жа аказываецца, што **на палёх бітв** убыла з радоў ваюючых войск гэтулькі народу:

| | Забітых: | Цяжка раненых: | Легка раненых: | Палонных і прапаўшых: |
|---|---|---|---|---|
| 1. У Расеі . . . . | 2.762.064 | 1.000.000 | 3.950.000 | 2.500.000 |
| 2. „ Нямеччыне . . | 1.611.104 | 1.600.000 | 2.183.143 | 772.522 |
| 3. „ Францыі . . . | 1.427.800 | 700.000 | 2.344.000 | 453.500 |
| 4. „ Аустра-Вэнгрыі. | 911.000 | 850.000 | 2.150.000 | 443.000 |
| 5. „ Англіі . . . . | 807.451 | 617.740 | 1.441.394 | 64.907 |
| 6. „ Сэрбіі . . . . | 707.343 | 322.000 | 28.000 | 100.000 |
| 7. „ Італіі . . . . . | 507 160 | 500.000 | 462.196 | 1.359.000 |
| 8. „ Турэччыне . . | 436.924 | 107.772 | 300.000 | 103.731 |
| 9. „ Румыніі . . . . | 339.117 | 200.000 | — | 116.000 |
| 10. „ Бэльгіі . . . . | 267.000 | 40.000 | 100.000 | 10.000 |
| 11. „ Пауночна-Амэрыкан. Злуч. Шатат. | 107.284 | 43.000 | 148.000 | 4.912 |
| 12. „ Баугарыі . . . | 101.224 | 300.000 | 852.399 | 10.825 |
| 13. „ Грэцыі . . . . | 15.000 | 10.000 | 30.000 | 45.000 |
| 14. „ Партугаліі . . | 4.000 | 5.000 | 12.000 | 200 |
| 15. „ Японіі . . . . | 300 | — | 907 | 3 |
| а усяго разам: . . . | 9.998.771 | 6.295.512 | 14020039 | 5.983.600 |

Ад **хвароб і голаду** ў сувязі з вайной і блякадай пагібла **5.300.000 душ.**

**Лічба радзін** у часе вайны паменшылася проці нармальнае на **20.000.000**

Гэтак **агульны ўбытак** у насяленьні сьвету ад вайны—**35.298.771 душ.**

#### II. Возера з крыві людзкой!

Адна газэта зрабіла гэткі цікавы падрахунак, сколькі крыві людзкой пралілося ў часе сусьветнае вайны.

Лічучы круглымі лічбамі агульную лічбу забітых 10 мільёнаў і раненых—15 мільёнаў і прыймаючы пад увагу, што кожны забіты даваў 1 літр крыві, а кожны ранены—½ літра, выходзе, што **ўсяго пралілося 17 з паловай мільёнаў літраў крыві чалавечай.** Каб мець прадстаўленьне аб гэтай масе, даволі сказаць, што дзеля перавозкі ўсяе пралітае на вайне крыві трэба было-б 58 паездоў (па 30 вагонаў) і яшчэ дзесяць вагонаў...

Пралітай крывёй можна было-бы напоўніць **цэлае вялікае возера на 1 мэтр глыбокае, на 130 мэтраў ушыркі, на 135 мэтраў удоўжкі...**

Калі-б усе забітыя станулі ў адзін рад і прайшлі цэрэмоніяльным маршам перад адным чалавекам, дык гэны марш трываў-бы 70 дзён і 70 начэй!

#### III. Лічба калек.

Паводле падрахунку Міжнародавага Т-ва Працы ў Жаневе ад вайны асталася калек:

| | |
|---|---|
| У Нямеччыне . . . . . . . . . . . . | 1.537.000 |
| „ Францыі . . . . . . . . . . . . . | 1.500.000 |
| „ Англіі . . . . . . . . . . . . . | 1.170.000 |
| „ Італіі . . . . . . . . . . . . . | 800.000 |
| „ Расеі . . . . . . . . . . . . . | 775.000 |
| „ Польшчы . . . . . . . . . . . . | 320.000 |
| „ Чэха-Славакіі . . . . . . . . . | 236.000 |
| „ Юга-Славіі . . . . . . . . . . . | 164.000 |
| „ Аўстрыі . . . . . . . . . . . . | 164.000 |
| „ Паўн.-Амэрык. Злуч. Штатах . . . . . | 157.000 |
| „ Румыніі . . . . . . . . . . . . | 100.000 |
| „ Аўстраліі . . . . . . . . . . . | 76.000 |
| „ Бэльгіі . . . . . . . . . . . . | 50.000 |
| „ Канадзе . . . . . . . . . . . . | 45.000 |
| „ Новай Зэляндыі . . . . . . . . . | 20.000 |
| „ Фінляндыі . . . . . . . . . . . | 10.000 |
| разам | 7.124.000 калек, |

якія жывуць з урадовае дапамогі. Але гэта — толькі ў 16 краёх. Калі-ж дадаць яшчэ ўсіх калек Турэччыны, Баўгарыі, Вэнгрыі, Партугаліі, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Японіі, дык агульная лічба калек, бязспрэчна, дасягне **дзесяць мільёнаў.**

Лічба калек-беларусаў асобна ня выдзелена, а ўваходзіць часьцю ў лічбу калек Расеі, часьцю—ў лічбу калек Польшчы.

### Матар'яльныя страты.

| | | |
|---|---|---|
| Вытрачана ваюючымі дзяржавамі грашмі | 260.680 | мільён. даляр. |
| Страты насяленьня зруйнаваных зямель | 29.960 | |
| Пасярэднія страты . . . . . . . . . | 84.510 | |
| Дабравольныя ахвяры Амэрыкі і англійскіх калёніяў . . . . . . . . . . | 873 | |
| Выдаткі нэўтральных дзяржаў на абарону іх граніц . . . . . . . . . . . . . | 3.321 | |

Разам 379.344 міл. даляраў.

### Хто сабраў плён?

Вайна дала нязвычайна вялікія даходы капіталістам Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў. На даставах ваюючым дзяржавам амэрыканскія капіталісты зарабілі **тысячы мільёнаў даляраў**. Калі-ж у касах эўрапэйскіх дзяржаў не хапіла грошы, дык усе кінуліся за пазыкамі да тэй-жа Амэрыкі. І цяпер блізу ўвесь сьвет зьяўляецца даўжнікам Амэрыкі: агульная сума эўрапэйскіх даўгоў Амэрыцы дайшла **10.000 мільёнаў даляраў**! Да гэтага хутка далучыцца яшчэ пазыка Нямеччыне, якую Амэрыка маніцца ёй даць на адбудову яе эканамічнае гаспадаркі.

### Пакараныя вінавайцы вайны.

У выніку сусьветнае вайны панясьлі цяжкую кару за яе тыя валадары ваяваўшых дзяржаваў, якія сваёй уладай павялі народы на крывавае змаганьне. **27 манархаў утрацілі свае троны:** 4 імпэратары (аўстрыйскі, нямецкі, расейскі і турэцкі), 6 каралёў (Баварыя, Чорнагорыя, Баўгарыя, Прусія, Саксонія, Вюртэмбэрг), 5 вялікіх удзельных князёў і 12 меншых удзельных князёў.

## Страты беларусаў.

Сколькі беларусаў палягло ў часе сусьветнае вайны? Гэтае статыстыкі ніхто не рабіў, ніхто не падлічаў нашых ахвяр жыцьцём і крывёй. Тыя сотні тысяч жаўнераў беларусаў, што паляглі на палёх бітв за чужую, незразумелую для іх нават справу, утанулі ў агульнай масе расейскіх крывавых яхвяр.

Але ня толькі ад куль і штыхоў складалі сваю галаву сыны Беларусі: бо ў шмат разоў балей пагібла нашага народу ад хвароб, голаду і холаду ў часе бадзяньня на чужыне—на прымусовай эміграцыі—„бежанстве“.

Расейская ўлада перш за ўсё апусташыла Горадзеншчыну. Тут аказаліся ажно тры крэпасныя раёны: Горадзенскі, Берасьцейскі і Асавецкі, з якіх у самым пачатку вайны выгналі ўсё насяленьне, а ўсе вёскі папалілі да званьня. Сьледам за гэтай першай хваляй эмігрантаў хлынула другая — у мамэнт адступленьня расейскіх войск у восені 1915 году. Урэшце, калі блізу на тры гады пралягла праз усю даўжыню Беларусі лінія ваеннага фронту, дык на многа вёрст на захад і на ўсход ад гэтае лініі ізноў адбылося пагалоўнае высяленьне народу, сотні вёсак і мястэчак былі спалены або зруйнаваны з зямлёй агнём артылерыі абедзьвюх ваюючых армій.

А далей—у працягу трох гадоў—1918, 1919, 1920—праз беларускія землі перакатываліся новыя ваюючыя арміі, акупацыя замянялася акупацыяй, і насяленьне ўсё радзела, край пусьцеў і галеў....

Увесь сьвет ведае аб стратах і спусташэньні Бэльгіі і Францыі. Але спусташэньне Беларусі было хіба ня меншае. Гэта-ж у аднэй толькі Заходняй Беларусі **вайна зруйнавала звыш 500.000 будынкаў**, а ў Палесьсі і дагэтуль чакаюць адбудовы 95,314! Гэта-ж насяленьне нашае многапакутнае Бацькаўшчыны з 13,800,000 душ па рахунку 1914 году паменшала да 10,783,000 душ у 1919 годзе, — значыць, **мы ўтрацілі роўна тры міліёны душ**!

Сярод тых трох міліёнаў пагібшых у сувязі з сусьветнай вайной сыноў Беларусі пераважаюць нашы шэрыя сярмяжнікі і работнікі. Але паміж імі бачым і цэлы рад правадыроў нашага народу—барацьбітаў за яго людзкае, нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне, якія ці то палеглі ў бітвах, ці, працуючы на сваіх адказных і трудных становішчах, памерлі ад ваенных турботаў, галадухі і хвароб.



„Цётка“.



Іван Луцкевіч.



Алесь Гарун.

Іх сяньня мы павінны памянуць асабл!ва.

Забіты ў баёх:

**Лявон гмырак (М. Бабровіч)** — малады і надта здольны публіцыст, працаваўшы ў „Нашай Ніве“. Выдатная рэвалюцыйная сіла. Вядомы такжа, як бэлетрыст, пад псэўданімам **Б. Заяц**. Родам з Віленшчыны (Пархвенава, Вялейскага пав.). Радзіўся 6 красавіка 1891 году. Забіты ў бітве пад Коўнай 30 чэрвеня 1915 году.

**Аўдзей Вінцук**, псэўданім **„Вясёлы“**, родам з Куранца, Вялейскага пав. Настаўнік, публіцыст і аўтар п‘есы „Ня розумам паняў, а сэрцам“. Пагіб у баёх у Карпатах.

Імёны другіх беларускіх дзеячоў, кроў каторых была праліта ў часе бітв, нам невядомы.

Больш даных маем аб памершых у часе вайны ад яе нягод, голаду і хвароб белерускіх дзеячох, не пакідаўшых працы для свайго народу ў найцяжэйшыя часы.

У часе вайны беларусы ўтрацілі найвыдатнейшага свайго правадыра, тварца сучаснага адраджэнскага руху, пачынальніка беларускае рэвалюцыйнае працы і адначасна вучонага архэалёга і гісторыка, тварца Беларускага Нацыянальнага Музэю, **Івана Луцкевіча**. Радзіўся 28 мая (ст. ст.) 1881 году ў м. Шаўлях (у Ковеншчыне), дзе бацька яго часова працаваў на чыгунцы. Памер 20 жніўня 1919 году ў Закапаным ад сухотаў, надарваўшы сілы непамернай і цяжкой працай і галаданьнем у часе нямецкай акупацыі ў Вільні.

Ад сухотаў-жа на грунце ваенных перажываньняў, галаданьня і церазмернае працы памерлі: Аляксандар **Бурбіс**, адзін з найстарэйшых дзеячоў Беларускае Сацыялістычнае . Грамады, неўтамімы арганізатар беларускага тэатру, выдатны адраджэнец; Максім **Багдановіч**, адзін з самых выдатных паэтаў нашых, нязвычайна заслужоны на ніве адраджэнскае літэратуры і грамадзкае працы; Антон **Лявіцкі** (Ядвігін Ш.), выдатны беларускі пісьменьнік-бэлетрыст; **Грыкоўскі**, беларускі настаўнік і грамадзкі дзеяч, тварэц і кіраўнік першае беларускае школы і грамадзкіх арганізацыяў у Горадні; Тэцька **Станішэўшчанка**, настаўніца, працаваўшая ў першых беларускіх школах часоў нямецкае акупацыі ў Вільні і Горадні.

Ад тыфусу, ратуючы выміраўшых ад гэтае хваробы на грунце голаду беларускіх сялян у Лідчыне, памерла выдатная рэвалюцыянерка і пісьменьніца-паэтка Алёізія **Пашкевічанка**, па мужу **Кейрысовая**, найбольш вядомая пад прозьвішчам „Цётка“,—неўтамімая арганізатарка беларускіх школ у Вільні ў пачатку нямецкае акупацыі.

Ад крываўкі, панаваўшай сярод войска, памер вялікі беларускі паэт і грамадзкі дзеяч Меншчыны, колішні ссыльна-пасяленец у Сібіры (за рэвалюцыйную працу ў 1905 годзе), Аляксандар **Прушынскі** (Алесь Гарун).

Ад голаду памер малады і здольны сялянскі паэт Ф. **Калінка** (А. Петрашкевіч)....

І многа-многа другіх беларускіх працаўнікоў зыйшло перадчасна ў магілу ў сувязі з перажытымі страшэнствамі крывавае вайны!

# Убытак насяленьня Беларусі.

## У паветах.

Аб стратах у лічбе насяленьня Беларусі ў найбольш пацярпеўшых паветах, раўнуючы даныя 1911 і 1919 гадоў, красамоўна гавораць гэтыя цыфры: *)

| *Паветы:* | *Убытак насял. у %%* |
|---|---|
| Берасьцейскі | 68 проц. |
| Пружанскі | 61 „ |
| Слонімскі | 55 „ |
| Кобрынскі | 51 „ |
| Ваўкавыскі | 50 „ |
| Троцкі | 48 проц. |
| Горадзенскі | 47 „ |
| Бабруйскі | 38 „ |
| Наваградзкі | 37 „ |
| Ашмянскі | 32 „ |
| Барысаўскі | 29 „ |
| Сьвянцянскі | 27 „ |
| Лідзкі | 27 „ |
| Пінскі | 27 „ |
| Браслаўскі | 27 „ |
| Віленскі | 24 „ |
| Дзісьненскі | 23 „ |
| Баранавіцкі | 20 „ |
| Вялейскі | 15 „ |
| Менскі | 13 „ |
| Слуцкі | 12 „ |

*) Цыфры гэтыя прыводзім паводле брашуры: Wl. Studnicki, Kolonizacja i rozwój gospodarczy naszego Wschodu. Warszawa 1921.

## У местах.

У Вільні паводле сьпісу насяленьня 1897 г. лічба жыхараў была 154.532; на 1919 год лічба гэтая была ўжо толькі 128.954. Значыць, за час вайны Вільня утраціла ня толькі ўвесь свой натуральны прырост ад 1897 да 1915 году, але і звыш таго 25:578.

У другіх нашых местах убыла гэтулькі народу:

| *Месты:* | *Было да вайны:* | *Было ў 1919 г.* |
|---|---|---|
| Горадня | 66.000 | 28.000 |
| Берасьце | 57.000 | 14.000 |
| Пінск | 38.000 | 21.000 |
| Смаргоні | 35.000 | 154 |
| Слонім | 21.300 | 9.700 |
| Пружаны | 11.400 | 6.100 |
| Кобрын | 11.300 | 8.800 |
| Наваградак | 8.400 | 5.000 |
| Сьвянцяны | 6.600 | 3.900 |

Аб меншых мястэчках тут не ўспамінаем: яны часта былі зьнішчаны да званьня, так, як і нашы вёскі.:..

# Вялікая вайна у беларускай літаратуры.

Літаратура народу — гэта быццам найбольш чулая фатаграфічная плітка, якая адбівае ў сабе ўсе праявы нашага жыцьця. Але гэтае адбіваньне жыцьця ў літаратуры мае свае асаблівыя законы.

Нейкае яркае здарэньне, нейкая нязвычайная праява, якая паражае нашае выбражэньне і пачуцьцё, якая крэпка, балюча б‘ець па нашых нэрвах, — у першы чарод адбіваецца **ў лірычнай творчасьці**. І гэта зусім натуральна: паэт-лірык, як і кожын чалавек, патрабуе нечым выявіць, неяк высказаць тое, што адчувае і перажывае, высказаць тое, што перапоўніла ягоную душу,—мо‘ нават не аналізуючы, не разважаючы. Лірыка і дае нам гэткія першыя **адрухі пачуцьця**. Але ў меру таго, як здарэньне адыходзіць ад нас у часе ўсё далей і далей, на сцэну выступае не пачуцьцё, а крытычная мысьль і аналіз, развага. Вось, чаму **эпос** адклікаецца на жыцьцё шмат пазьней, і часта толькі далейшыя пакаленьні даюць магутны абраз жыцьця дзядоў у сваіх эпічных творах.

Гэтае самае бачым мы і ў беларускай літаратуры ў адносінах да сусьветнае вайны. Лірыка наша адгукнулася на яе ў першыя-ж дні пасьля выбуху вайны, пасьля першых крывавых баёў. Эпос (а таксама і драма) яшчэ толькі пачынаюць выпаўняць сваю натуральную ролю, далёка не апанаваўшы ўсяго багатага ваеннага матар‘ялу дзеля творчасьці.

Першыя адгукнуліся на крывавыя падзеі Алесь Гарун, Зьмітрок Бядуля, Янка Купала, Якуб Колас. Пераглядаючы цяпер першыя „ваенныя“ нумары „Нашае Нівы“, насамперш натыкаемся на верш Гаруна „Праводзіны“, напісаны 14. VIII. 14. Нязвычайнай задушэўнасьцяй і чуласьцяй веець ад гэтых радкоў, у якіх беларускі селянін разьвітываецца з братам, што йдзе на вайну. Паэт наш адчувае вельмі востра цяжар таго **прымусу**, які гоне яго сярмяжнага брата на крывавую бойню, за чужую справу,—бо-ж: „Сорам і ганьба для сьвету вайна, як ні мяркуй, ні судзі!“ Гарун, як і той запасны салдат-беларус, якога адрываюць ад роднай хаты і малых дзетак, ня мае ніякае злосьці да „ворага“. Глыбока-гуманітарны, людзкі настрой бачым мы ў радкох вершу Гаруна:

Будзе праціўнік пабіты ляжаць,
— Ты пашкадуй яго, брат!
Раны завяжаш, паможаш устаць:
І ён — чалавек і салдат.

Брат, у далёкай сваей старане
Мае ён дзетак, сям‘ю....
Помста, ці хцівасьць цябе як штурхне,
Успомні сямейку сваю!

Старасьці, цноце ня помні ураз,
Гэтым сумпеньня ня плям.
Быў чалавекам ты, браце, у нас,
Будзь чалавекам і там!

Інакш выяўляецца першы одрух на ваенныя падзеі ў Зьмітрака Бядулі (Ясакара), якому вайна прадстаўляецца, як магутны мастацкі абраз волата-юнака. Напісаны ім 15. IX. 14. у Вільні верш „Волат“ пачынаецца жудасным малюнкам:

Сьмерць... Бура... Трывога...
Ня йдзі, ой, ня йдзі ты, асілак-юнача!
Ляжыць прад табою страшная дарога:
Пагінеш, пагінеш... няйначай!

Чырвоныя коні пад небам нясуцца,
Пярун і грымоты ўвакруг раздаюцца,
І страх і атрута ўвесь сьвет абляглі...
І нішчыцца ўсё на зямлі...

І кроў... І руіны...
Ой, горкая будзе, дзяцюк, твая доля!
Сьмерць зрэжа касою, бы кветку-расьліну,
Груган зьнясець косьці па полю...

Але вайна ўжо збудзіла ў маладых грудзёх утоены ў іх агонь і буру. І волата-юнака ня стрымлівае намаляваны рукой мастака-паэта жудасны абраз: ужо парыў захапіў яго, ужо ў ім выбухнула жаданьне „п‘янець, загарэцца“. І магутная сіла волата-народу нясе сама зьнішчэньне і сьмерць...

Памчаўся далёка....
Прапаў!... І ня вернецца, сьмелы, ніколі....
Яго ня убача ўжо матчына вока...
І грудзі парвуцца ад болю...

Больш шырокі падыход да вайны бачым у Янкі Купалы. Купала даў цыкль вершаў пад агульным загалоўкам „Песьні вайны“. Безнадзейна-сумнае „motto“ ўзяў наш паэт да свайго цыклю — словы песьні народнае:

Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей, маці, на каменю;
Як прыжджэшся з пяску ўсходу,
Тады верне сын з паходу....

Не дарма ў першым вершу „Варожбы“ трывога нейкая ўзьнімаецца сярод людзей:

— Што-то будзе, што-то будзе?
Штось трывожны сьвет і людзі!...

І не на дабро паказуюць ягоныя варожбы.... Чуецца надыход буры („Перад бурай“):

Сталі ўсюды ўсімі трэсьці
Неспакойства поўны весьці,
Што, забыўшы людзі ўвагі,
Пад крывавы пойдуць сьцягі....



Максім Багдановіч.



Аляксандар Бурбіс.



Лявон Гмырак.



Тэцька Станішэўшчанка.

## Спаленыя вёскі і мястэчкі.

Найвялікшые зьнішчэньне было ў *Горадзеншчыне*:

У *Берасьцейскім павеце* спалены 126 вёсак і мястэчак, 37 фальваркаў і двароў, 20 фабрычных будынкаў, 1 места.

У *Пружанскім пав.*: 92 вёскі, 4 мястэчкі, 40 двароў.

У *Слонімскім пав.*: 200 вёсак.

У *Ваўкавыскім пав.*: 122 вёскі і мястэчкі, 33 двары і фальваркі, 18 прамысловых прадпрыемств.

За Горадзеншчынай ідзе *Меншчына*. Ня маючы поўных даных аб стратах Меншчыны, адзначым толькі, што ў Наваградчыне спалены 22,8% усіх пасяленьняў, у Баранавіцкім павеце — 99 вёсак да-тла, 28 — часткова...

Далей ідзе *Віленшчына*, дзе зьнішчаны ўсе насяленьні на лініі фронту, а адно з вялікшых мест — Смаргоні — зруйнавана да-тла.

Лічба зьнішчаных будынкаў даходзіць да 500.000.

## Убытак каней і скаціны.

Вось цыфры, якія паказуюць, сколькі каней і сколькі штук скаціны ў паасобных паветах выпадала на кожныя 10 квадр. кілямэтраў прастору ў 1900 і 1919 г. г.

У Горадзеншчыне:

| ПАВЕТЫ: | На 10 квадр. кілямэтраў | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Каней | | Скаціны | |
| | у 1900 г. | у 1919 г. | у 1900 г. | у 1919 г. |
| Берасьцейскі . . . | 43 | 12 | 133 | 12 |
| Ваўкавыскі. . . . | 50 | 25 | 127 | 32 |
| Кобрынскі . . . . | 35 | 16 | 174 | 27 |
| Пружанскі . . . . | 39 | 15 | 104 | 13 |
| Слонімскі . . . . | 41 | 15 | 119 | 5 |
| Горадзенскі. . . . | 50 | 35 | 127 | 41 |

У Віленшчыне ў 1910 годзе было на кожын квадратны кілямэтр 7 каней, 16 штук скаціны, а ў 1919 — толькі 3 коні, 4 шт. скаціны.

Усяго ў Заходняй Беларусі лічба каней на 1919 год проці даваеннае паменшылася на 48%, а скаціны — 67%.

## 1914-ты.

Зыходзіш ты туды, скуль ня прыходзяць,
Але сваіх не забярэш сьлядоў....
О, год! такіх, як ты, час рэдка родзіць.
О, год! ты першы гэткі з-між гадоў!

Прыйшоў ня з згоды і свабоды весьцяй
І—не ўзьвялічыць праўду між людзьмі;
Жыцьцём мільёнаў ты прыйшоў затрэсьці,
Шлях вымасьціць свой трупамі, касьцьмі.

Касьцьлявай зморай з гібелі сталецьцяў
Ты, як праклянцьце, будзеш вызіраць,
І будзе маці страшыць тобой дзеці,
Ды клікаць той—хто ўздумае ўміраць.

„Не забіваці"—ты стрывожыў права,
На сэрца і душу наклікаў цьму;
Людзей на зьвераў пошасьцяй крывавай
Ператварыў і здаў насьледніку свайму.

Га! хай-жа льецца кроў, дымяць пажары,
Няхай пад крыжам плача сірата!
Крывавы бог крывавыя ахвяры
Сабраць павінен з сьвету дачыста.

Аж прыйдзе іншы год з рукою лёгкай
Агледзіны рабіці новых дзён,
Дзе меч нявідзімага бога-Рока
Напіша бяскрывавы свой закон.

18/XII. 1914.

**Янка Купала.**

## Палітычныя падзеі.

### Вялікі мітынг варшаўскіх работнікаў.

Партыя „нацыянальна-польскіх работнікаў" склікала ў Варшаве вялікі мітынг, на якім прынята рэзалюцыя проці нарушэньня правоў работнікаў і павялічэньня дня працы на Сьлёнску.

### „Дзікая" забастоўка.

У паўночных „паморскіх" паветах Польшчы выбухла „дзікая" (сама сабой, без агітацыі — стыхійная) забастоўка батракоў, якія вымагалі 300 працэнтаў дабаўкі ( ў 4 разы больш, як атрымлівалі дагэтуль).

Цікава адзначыць, што арганізаванае „прадстаўніцтва работнікаў" у прафэсіянальных саюзах ці ў партыях, як падае „Усх. Аг.", заклікае работнікаў „як найхутчэй спыніць, у супрацоўніцтве з уладамі, забастоўку"...

### Праваслаўны багаслоўскі факультэт у Варшаве.

Рада міністраў абвесьціла распараджэньне аб адчыненьні з новага вучэбнага году пры Варшаўскім Унівэрсытэце праваслаўнага багаслоўскага факультэту. За расейскіх часоў сэмінарыстаў прыймалі ў Варшаўскі Унівэрсытэт дзеля абмаскоўленьня Варшавы; цяпер, відаць, будуць прыймаць дзеля апалячаньня іх-жа, сэмінарыстаў!

### Заява літоўскага мін. загран. спраў.

Новы літоўскі міністар загран. спраў заявіў, паміж іншым, у сваім экспозэ, што ўрад гатуе абшырны мэморыял у віленскай справе, — у адказ на заклік Рады Паслоў паразумецца з Польшчай. Апроч таго, урад рыхтуецца да верасьнявай сэсіі Лігі Народаў, на якую дэлегуе Гальванаўскаса і Сідзікаўскаса.

### Аблава на ўцёкшых арыштантаў у Коўні.

З ковенскай турмы ўцяклі 72 арыштанты. Паліцыя нарыхтавала запраўдную аблаву, якая разьвярнулася ў цэлую бітву. Два арыштанты забіты, 58 затрыманы, рэшта ўцякла.

---

Меч уздыйме брат на брата,
Стане брату брат – горш ката....
Зуб — за зуб, за вока — вока...
Як і сказана ў прарокаў.

Па краю пранёсся прызыў у рады войск — на вайну („Склік"):

Ад самагубнасьцяў дзікіх,
Ад трупам значаных дарог
Не пастрымалі сэрц людзкіх
Ні права іхняе, ні бог.

Ударыў гром, завыў пажар,
Склікаюць трубы на паход;
Йдзе край на край, на цара — цар,
Народ падняўся на народ.

Паэт — сам праціўнік вайны. Але ўжо ў гэтым вершу, пісаным (— пад расейскай ваеннай цанзурай!) у 1914 годзе, чуецца так папулярны пазьней кліч „вайна вайне":

Адважна ў бой! Вайна вайну
Спладзіла — хай-жа бітва йдзе
За шчасьця лепшага вясну,
За волю вольнай грамадзе!

Мы адзначаем гэты мамэнт, бо ён вельмі характэрны для тагачасных настрояў: так, як прадстаўляе сабе вайну Купала, прадстаўлялі і шырокія народныя масы, веручы, што гэтая вайна паложыць канец усім войнам у будучыне...

Наіўныя! Якое-ж горкае было затое пасьля расчараваньне....

Але, ня гледзячы на ўвесь гэты пачатковы оптымізм, разлука з краем, руйнаваньне Бацькаўшчыны, страшэнныя абразы пабоішча — ўсё гэта пярэчыць спадзяваньням народу (вершы: „Разлука", „Засталіся нівы, сёлы", „Пабоішча"). Жудасьцяй веець ад апісаньняў жыцьця вёскі без карміцаў, узятых у войска і загубленых на вайне,— ад панурага абраза пабоішча:

І вось жніва, — што за жніва!
Бокам, сторчам, проста, крыва —
Труп ля трупа, як калоды....
Што за сон, што за выгоды!

Не на сьмехі, не на жарт,
Ката — брат, кат брата варт....

І замірае ад гэтае жудасьці пачуцьцё радасьці ад дасягнутае страшэннымі ахвярамі пабеды,— а злавешчы груган, выплыўшы ў небе па-над пабоішчам, з ironіяй кракае аб „пабедзе":

Кра-кра, кра-кра! То-ж пабеда!...
Кра-кра-кра! рыхтуй пабой, —
Па пабедзе — зноў у бой!

Агульны тон вершаў Купалы, пасьвячоных вайне, — жалобны: узяць хоць-бы два навагоднія вершы яго — 1914 і 1915 г.г. „Жалобу носіць наскі край", — кажа наш паэт у апошнім...

Чацьверты з нашых паэтаў, які адгукнуўся на вайну крыху назьней: Якуб Колас, — у вершу „Думкі жаўнера" (1916 г.) ізноў-жа варочаецца да глыбокага грамадзкага пытаньня:

Эх, за што, ну, за што,—адкажэце вы мне,
Я павінен другіх зьніштажаць?
Ці калечыць сябе ў гэтай дзікай вайне
І пад кулі свой лоб падстаўляць?
Вы, што селі ўгары,—як вас, каты, назваць?
Не шкада вам нявінных людцоў!
Самадурства сваё вы гатовы купляць
Міліёнамі нашых галоў...

Ня будзем тут затрымлівацца на другіх нашых паэтах—„меншае велічыні": іх творы нічога новага не дадаюць. Дый трэба адзначыць, што, пасьля гэтых першых водгукаў нашых лірыкаў на вайну, яны на даўжэйшы час замаўкаюць, праводзячы цэлыя гады на фронце. А з канцом вайны зьвязаны новыя, мо' йшчэ больш яркія перажываньні: Рэвалюцыя,—якія і пануюць над усім іншым. Лірыкі нашыя мімаволі забываюць аб тым, што іх так захоплівала йшчэ напярэдадні Рэвалюцыі.

Затое на арэну выступаюць нашы эпікі. Толькі з аддаленьня, ўпарадкаваўшы ў галаве сваей усё перажытае, можна выразіць **сынтэз** перажытага ці то ў повесьці, ці то ў драме. Зьяўленьне апошніх папераджаюць звычайна дробныя апавяданьні і адтварэньне паадзінокіх мамэнтаў перажытага пэрыяду. І вось толькі ў 1919 годзе дае Максім Гарэцкі сваю повесьць „Дзьве душы", напісаную на фоне вайны. Але і ён яшчэ толькі ледзьве-ледзьве закрануў Вялікую вайну, толькі папробаваў падыйсьці да яе! Больш глыбака зачапляе Гарэцкі вайну ў вялікшым апавяданьні „За што?", адрывак з каторага пад загалоўкам „Хомчын канец" быў надрукаваны летась у I кн. „Заходняе Беларусі". Адзін з мамэнтаў вайны — нямецкую акупацыю ў Вільні—зачапляе Ф. Аляхновіч у драме сваей „Страхі жыцьця", дый падыходзіць да яе ў „Нясканчанай драме". З ваеннымі падзеямі зьвязаны і некаторыя творы Галубка, а таксама драма Гарбацэвіча „Чырвоныя кветкі Беларусі". Урэшце, спэцыяльна Вялікай вайне пасьвячае сваю найнавейшую, яшчэ, здаецца, незаконченую драму Якуб Колас. І гэта, ня лічачы розных дробных апавяданьняў з ваеннага часу, дзе прадстаўлены тыя ці іншыя **выпадкі**,—бадай і ўсё, што даў нам пакуль-што беларускі эпос.

Паўтараем: эпос вымагае аддаленьня, вымагае і **аддзяленьня перажытага ад асобы аўтара**. І толькі тады, як—паводле народнага выражэньня— „сьвет ізноў на адну меру стане", як да мінулага можна будзе падыйсьці зусім аб'ектыўна, — тады настане пара для буйнай творчасьці нашых эпікаў на грунце шуканьня **сынтэзу** вайны.

**Ант. Навіна.**

### Мітынг — „проці вайны“!

У Вене II Інтэрнацыянал арганізаваў грандыёзную маніфэстацыю проці вайны. Народу сабралося больш як 25.000.

### Голад у ССРР.

Генаральны сэкрэтар Расейскай камуніст. партыі выдаў адозву, у якой заклікае памагаць галадаючым з прычыны неўраджаю. Каля 7 мільёнаў людзей ужо галадае.

### Красін едзе ў Лёндон.

Радавы ўрад выслаў да Лёндону Красіна, каб пасунуць шпарчэй працу англійска-расейскай канфэрэнцыі, якая неяк угразла на мейсцы.

### Пленарнае паседжаньне Лёндон. Канфэрэнцыі.

Пленарнае пасёджаньне Канфэрэнцыі ізноў не дало нічога канкрэтнага. Прызнана толькі патрэбным, каб сама камісія адшкадаваньняў паразумелася з немцамі (?) адносна да сваіх паўнамоцтваў... Дзеля таго склікаецца да Лёндону ўся камісія адшкадаваньняў на супольную нараду. Ці, ў зьвязку з гэтым, скончыцца Канфэрэнцыя да 6-га жніўня, як хоча Мак-Дональд,—трудна адказаць.

### На „бой банкіраў“.

Газэты падаюць, што з Амэрыкі ў Лёндон едуць аж 80 банкіраў, каб падтрымаць свае варункі нямецкай пазыкі. Ці не паб‘юць амэрыканцы французаў, як пабілі калісь немцаў?!

### „Сацыялістычны“ міністар аб банкірах.

Галоўны, пасьля Мак-Дональда, кіраўнік англійскай дэлегацыі на канфэрэнцыі, мін. „сацыялістычнага“ ўраду Сноўдэн заявіў, што, незалежна ад усіх пастановаў і працы камісіяў, аканчальны вынік канфэрэнцыі трымаюць у сваіх руках амэрыканскія банкіры. Дзеля гэтага трэба—або згадзіцца на іх варункі нямецкай пазыкі, або, калі Францыя ня зробіць гэтага, дык зачыніць канфэрэнцыю.

### Варункі Нямеччыны.

Лёндонская Канфэрэнцыя пастанавіла запрасіць нямецкіх дэлегатаў у Лёндон, як толькі будуць сфармуляваны галоўныя пункты паразуменьня. У адказ на гэта нямецкі ўрад паставіў гэткія дамаганьні, як варунак учасьця немцаў у Канфэрэнцыі: 1) Поўнае раўнапраўе нямецкай дэлегацыі; 2) Адбудова эканамічнай незалежнасьці Рурскага абшару; 3) Скасаваньне ваеннай акупацыі ў Руры не пазьней, як 11 студня 1925 году.

Француская прэса, абураючыся на гэтыя варункі, піша, што 1 і 3 пункты Канфэрэнцыя ня можа нават разглядаць, бо яны не ўваходзяць у яе праграму.

### Адмірал Тырпіц проці „пляну Доўса“.

Вядомы нямецкі адмірал, новавыбраны павадыр нацыяналістаў, фон-Тырпіц (герой нямецкай „падводнай вайны“) заявіў, што Нямеччына ня можа згадзіцца на „плян Доўса“. Калі Вэрсальскі Трактат, гэта—„рэвальвэр, прыстаўлены да грудзей Нямеччыны“, дык плян Доўса—гэта „нож, які саюзьнікі маняцца ўсадзіць у яе сэрца“. Прыняцьце пляну—гэта голад, безрабоцьце і гібель нямецкага народу. Амэрыка таксама ня можа згадзіцца на гэты плян, бо ён зруйнуе пакупную сілу Нямеччыны, якая зьяўляецца найважнейшай кліенткай Амэрыкі, бо купляе там тавараў і сыр‘я больш, як усе іншыя краі.

З свайго боку Тырпіц прапануе перадаць справу на вырашэньне беспартыйнаму камітэту амэрыканскіх сэнатараў.

### Нобэлеўская „прэмія міру“ — Мак-Дональду.

Газэты падаюць, што галоўным кандыдатам у гэтым годзе на „прэмію“ з фундушаў, адпісаных на гэта нябошчыкам мільянэрам Нобэлем, зьяўляецца Мак-Дональд.

### Новы ўрад у Югаславіі.

Як ні ўпіраўся Пашыч, а мусіў-такі выйсьці ў адстаўку. Як ні круціў кароль, але і ён мусіў паддацца Канстытуцыі і даручыць стварэньне новага ўраду апазіцыі. Наскольki насьпеў апазіцыйны ўрад у краі, відаць хаця-б з таго, што павадыру апазіцыі Давідовічу ўдалося ў **адзін дзень** сфармаваць габінэт. Новы ўрад перадусім ставіць сабе задачай паразуменьне з „меншасьцямі“ — харватамі і славенцамі, — на ўціску ці ігнараваньні якіх апіраў усю сваю „палітыку“ Пашыч.

### Угодкі фашыстаўскага „паходу на Рым“.

Пакуль ідзе сьледзтва ў справе забойства фашыстаўскім урадам Маттэотті, фашысты рыхтуюцца да сьвяткаваньня ўгодкаў „маршу на Рым“... Гэтае „нацыянальнае сьвята“ мае разьвярнуцца ў вялізарную дэманстрацыю сілы фашызму ў краі і „падзеяць“ на апазіцыю, а заадно і на судовую ўладу, што вядзе сьледзтва. Якраз у гэты дзень адбудзецца тое „ператварэньне фашыстаўскай міліцыі ў дзяржаўную“, аб якім казаў Муссоліні, — гэта значыць папросту, што тая-ж фашыстаўская міліцыя прыняее прысягу каралю.

### Да рэвалюцыі ў Бразыліі.

З урадовых крыніц ідзе вестка аб тым, што ўрадовыя войскі занялі места С.-Паолё; паўстанцы адступілі.

## ХРОНІКА.

**Неабходнае выясьненьне.** Ад нейкага часу ў Вільні пачала выхадзіць даволі дрэньненькая па зьместу газэціна пад назовам „Грамадзкі Голас“, якая паставіла сабе чыста „дэфэнзыўную“ мэту: бараніць Польшчу ад... беларусаў!

З увагі на тое, што мэты газэты былі зусім відочныя з першага-ж нумару, мы не зварачалі на яе ніякае ўвагі, разумеючы, што народ наш сам лёгка распазнае, куды яна яго хоча вясьці. Але ў апошнія часы да нас з розных старон пачалі зварачацца нашыя сталыя падпішчыкі з заявамі, што на іх адрасы пасылаецца „Грамадзкі Голас“, што яны ўжо прасілі рэдакцыю ня слаць ім гэнае газэты, ды нічога не памагае. Пытаюцца ў нас, што гэта знача?

Вось нам і прыходзіцца, хоч-ня-хоч, успомніць пра гэны „Грам. Голас“, які зусім ня ёсьць голасам грамадзянства, а толькі так-званага „Грамадзянскага Сабраньня“, папросту картовага клюбу на чале з „вядомым“ Валэйшам. Да гэтага клюбу некалі належалі і запраўдныя беларускія дзеячы. Але, калі выкрылася крымінальная прошласьць і сучасная роля Валэйшы, дык падняліся вострыя пратэсты проці яго. Тады Валэйша, падабраўшы такіх-жа, як ён, кумпанаў і аб‘явіўшы сябе „прыхільнікам Польшчы“, а сваіх праціўнікаў—„ворагамі“ яе і „бальшавікамі“, увёў гэнуую кумпанію незаконна (ўлада глядзела на гэта скрозь пальцы!) у склад „Грам. Сабраньня“ і захапіў яго ў свае рукі. Усе шануючыя сябе беларусы выступілі з клюбу, і ў ім асталася зусім „аднародная“ публіка...

З таго часу ўлада дала Валэйшы дазвол распачаць на шырокую руку ігру ў карты ў „Грам. Сабраньні“ (раней за спробы іграць на клюб былі роблены паліцэйскія налёты і накладаліся кары!), на чым клюб зарабляе вялізарныя грошы. За тое, як нас інфармуюць, Валэйша абязаўся выпускаць „Грамадзкі Голас“ і дарма разсылаць яго па вёсках.

Скуль „Грам. Голас“ дастаў адрасы нашых падпішчыкаў, — мы ня ведаем. Адно з двух: або яны выдадзены ўрадовымі ўстановамі, або „ўзяты“ з нашае Рэдакцыі. Не дарма-ж Валэйша мае за сабой добрую вастрожную „крымінальную школу“...

**Як у Вільні прыймаюць „заграніxных гасьцей“.** „Słowo“ апісывае, як у Вільні „гасьцілі“ прадстаўнікоў прэсы Балтыцкіх дзяржаў. Вось, як быў запоўнены час гасьцей—ад абеду да 9 гадз. вечара.

У Шляхоцкім Клюбе банкетавалі на абедзе, уладжаным уладай; аб меры выпітага шампанскага найлепш сьведчыць — бясканечная чарга тостаў...

„Пасьля банкету, поўнага вельмі мілага настрою, адправіліся на запросіны старшыні сындыкату журналістаў (—ведама, польскіх! — *Рэд.*) да п. п. Букоўскіх, гдзе сардэчна фэтавалі (—проста: паілі!—*Рэд.*) нашых гасьцей „пад стрэхай“ старапольскага дому, як сьлед на польскай зямлі“.

Пасьля, агледзіўшы касьцёл Пятра і Паўла на Антокалі, пайшлі пехатой да латвійскага консула п. Донаса, гдзе „чакаў у роўнай меры „выквінтны“, як і шчодры прыём“. „Палілося віно“ і г. д... Пілі тут да 9 гадз., а пасьля паехалі на апэрэтку.

Ня дзіва, што, гэтулькі выпіўшы, балтыцкія госьці „былі ўсім ачараваны“... І напэўна „пераканаліся“ ў тым, што „Усходнія Крэсы“ — „чыста польская зямля“!

**Да прыезду ў Вільню В. Качалава.** У Вільню прыяжджае вядомы драматычны артыста Маскоўскага Мастацкага Тэатру Васіль Качалаў, які 2 жніўня выступае, як чытач-дэкляматар, у опэрным тэатры (на Вялікай Пагулянцы).

Для нас, беларусаў, прыезд Качалава дае ня толькі агульную радасьць з прычыны магчымасьці паслухаць сусьветную мастацкую сілу, але й будзіць нацыянальную гордасьць, бо Васіль Качалаў—наш беларус, жыцьцёвы шлях якога пайшоў па чужых загонах, але які ніколі не забываў свае бацькаўшчыны і свайго роднага народу. Паходзіць Качалаў з Вільні, дзе яго бацька быў сьвяшчэньнікам аднэй з тутэйшых цэркваў. Скончыўшы тутэйшую гімназію, Качалаў паступіў у Унівэрсытэт, але цяга ад малых гадоў да сцэны перамагла, і ён, кінуўшы навуку, йдзе на сцэну, спачатку у правінцыі.

Калі зарганізаваўся ў Маскве Мастацкі тэатр на чале з Станіслаўскім (1898), да яго пацягнулася ўсё жывое і здольнае. Прыйшоў туды праз някі час і Качалаў і, ня гледзячы на спаткаўшыя яго там напачатку няўдачы, стаў з часам цэнтральнай фігурай, блізка самай папулярнай сярод Маскоўскіх мастакоў, добра вядомай кожнаму інтэлігенту ня толькі ў Расеі, але і заграніцай.

Качалаў, колькі мог, прымаў удзел і ў культурным адраджэньні свае бацькаўшчыны: ён адзін з першых увайшоў ў склад Беларускага Навукова-Культурнага Таварыства, якое засновалася ў Маскве ў чэрвені 1918 г.

**Усебеларуская алімпіяда.** У пачатку жніўня у Менску адбудзецца ўсебеларуская алімпіяда (сьвята фізкультуры).

**Новыя „банды“ ў Навагрдчыне.** „Усх. Аг.“ падае, быццам у Навагрдчыне пачалі працаваць новыя, арганізаваныя на тым баку граніцы, „банды“. Паліцэйскія ўлады патрабавалі падмогі, каб „ачысьціць ваяводзтва ад бандытаў“.

## Весткі з вёскі.

### Неспадзяваны мітынг.

Каля вёскі Ярэмічы, Навагрдзкага ваяв., ёсьць мост праз раку Нёман. Так вось каля гэтага маста ў адно польскае сьвята праз загад паліцыі адбыўся мітынг сялян суседніх вёсак.—А сталася гэта такім чынам: паліцыя, засеўшы на масьце, не прапушчала без заплаты штрафу (па 10 мільёнаў з чалавека) сялян, якія асьмеліліся ў сьвята вазіць сена. Ну, ведама, адкуль селяніну ўзяць грошай, калі ён выехаў толькі на сенажаць, каб забраць сена, а падругое й прынцыпова не хацеў пазволіць усякаму паліцыянту бяз дай-прычыны зьдзекавацца над ім.

Пакуль было двух-трох, стаялі каля сваіх вазоў і патыліцу скраблі, раздумоўваючы, што тут рабіць з гэткаю ліхою бядою. Ступнёва пачынала зьяжджацца больш такіх, а пад вечар дык сабралася вялікая грамада. Вазы з сенам расьцягнуліся на паўтары вярсты, а людзі пачыналі зьбірацца ў кучу, каб парадзіцца, што рабіць? Па кароткай нарадзе ўсе аднагалосна вырашылі: штрафу не плаціць і да хаты ня ехаць, а пераждаць каля маста да раньня, як некатарыя казалі, пакуль „шабас“ не адыйдзе.

Сказалі—зрабілі; на паўдні далі каням сена, й пачалася гутарка. Зрабілі праўдзівы мітынг, першы, можна сказаць, мітынг, на якім гаварылі, не баючыся (бо ёсьць ведама, ён зарганізаваны быў праз самую паліцыйную ўладу!), аб усім тым, што каму набалела й накіпела: успаміналі тут пра ўсе тыя панскія абяцанкі, якія паны так поўніцай кідалі падчас змаганьня з бальшавікамі, пра „роўнасьць“ і „вольнасьць“, пра „зямлю“ й „лепшую долю“, не забываючы пры гэтым і пра... асаднікаў, падаткі, ды вось такі зьдзек.

Пад‘ехала яшчэ пару вазоў, але ўжо ня з сенам, а ўлёгцы—нейкія незнаёмыя падарожныя,—як казалі, здалёк ехалі, дый угразьлі, бо ўся дарога была запруджана вазамі—разьмінуцца было нельга. Далучыліся да нашае грамады, такім чынам, і гэтыя. Пастаялі, паслухалі, а пасьля й самі пачалі гутарыць, да так прыгожа, зразумела—па нашаму, а пасьля й газэтку нам пачыталі. Пісалася там аб тым, што робіцца на ўсім сьвеце. Чыталі яны нам па нашаму—пабеларуску нашую-ж газэтку „Сына Беларуса“. Адтуль мы даведаліся, што ня толькі нам жывецца дрэнна, але ёсьць тыя, якім яшчэ горш.

З інтэрпэляцыяў нашых паслоў у Сойме даведаліся мы аб такіх-жа жудасных зьдзеках, якія чыняцца й ня толькі над намі, але, як відаць, наагул над Беларускім народам, а праводзіць іх панская ўлада сыстэматычна; даведаліся аб тэй брахні, якою так частуюць нас розныя агітатары так званых „лявіцовых“ польскіх партыяў—Вызваленцы й пэпээсы; уцямілі нарэшці ўсе сабе добра, што ніякае палёгкі ад Польскага Ураду чакаць нельга, бо нават такія „дэмакраты“, як паны Тугутты, стварыўшыя, быццам нейкую „ласку“, свае так званыя „ензыковыя“ ўставы, Беларускаму Народу збаўленьня не дадуць...

Вось за гутаркаю такою й не аглядзеліся, як сьвітаць пачало, й сьвята адышло, а паліцыянты, нічога не зарабіўшы, а толькі надарэмна на масьце ноч сабе змарнаваўшы, пацягнуліся спаць. Трэба было й нам зьбірацца ў дарогу, але нейк не хацелася,—ў галаве кожнага блукаліся розныя думкі й успаміны... Але вось адзін з грамады, крыкнуўшы: „Гэй, хлопцы, пара!“, зацягнуў песьню:

Час склікаць ужо грамаду
На вялікую нараду,
На вялікі сход!
Хай рассудзіць, хай разважаць,
Слова цьвёрдае хай скажаць—
Скажаць сам народ!....

а маладыя хлопцы дружна падхапілі, канчаючы гэты прыгожы верш нашага вялікага песьняра Янкі Купалы гэткімі словамі:

Хай званы зазвоняць з жарам,
Хай музыка ў струны ўдара—
Гэй, устань народ!
За сябе сам пастаяці
І за Бацькаўшчыну—маці
Йдзі народ на сход!

(—) **Магіла.**

## Наша пошта.

**Нікіфароўскаму.** 2 р. 10 кп. серабром атрымалі. Дзякуем.

**Д-ру Краскоўскаму.** 4 зл. атрымалі. Дзякуем. Адрас перамянілі.

**Ал. Патапчыку.** 2 зл. атрымалі. Дзякуем.

**Ст. Яроцкаму ў Празе Чэскай.** 12 зл. за Вас атрымалі. Дзякуем. Адрас пераменены.

**Ключановічу.** 3 зл. атрымалі. 1 зл. аддадзены ў „Крыніцу“. Лісту чакаем.

**Шлотскаму.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем.

Па падпісному лісту № 3, **21 зл. 50 гр.** сабраныя праз А. Качуцкага, атрымалі. Усім ахвярадаўцам шчыра дзякуем.

**А. Сінкевічу.** Будзьце спакойны; высылкі газэты ня спынім, веручы, што пры першай магчымасьці грошы адашлецё.

**Жыткевічу і Філютовічу.** Газэту высылаем ня спыняючы. Грошы чакаем.

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.